СОНЦА:
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.32, 17.19, 10.47;
Віцебск — 6.26, 17.05, 10.39;
Магілёў — 6.22, 17.09, 10.47;
Гомель — 6.19, 17.06, 10.47;
Гродна — 6.49, 17.32, 10.43;
Брэст — 6.46, 17.37, 10.51.
МЕСЯЦ:
Поўня 11 кастрычніка
ІМЯНІНЫ:
Рыгора, Міхала



# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

13 КАСТРЫЧНІКА 1992 г.
аўторак, № 205 (21983)



● цана 1 рубель

# РОЗГАЛАС

## ЯДЗЕРНЫ ПАЛІГОН НА БЕЛАРУСІ ПАКУЛЬ НЕ ЗНОЙДЗЕНЫ

Для многіх ашаламляльнай і нечаканай стала інфармацыя, якая прагучала ўчора ў праграме «Радыёфакт»: на тэрыторыі Столінскага раёна, што на Брэстчыне, доўгі час дзейнічаў закрыты вайсковы палігон, на якім праводзіліся... выпрабаванні. Чалавек, які выступаў перад мікрафонам, сказаў, што быў відавочцам тых падзей. Ён сказаў таксама, што пасля кожнага эксперымента абслуговы персанал прымаў спецыяльныя антырадыяцыйныя таблеткі.

Каб высветліць сітуацыю, мы пазванілі ва Упраўленне інфармацыі Міністэрства абароны Беларусі. Начальнік упраўлення палкоўнік У. Чэкаў заявіў наступнае:

— Афіцыяльна абвяргаю любую інфармацыю аб тым, што на тэрыторыі Беларусі праводзіліся ядзерныя выпрабаванні. Падобным звесткам можна верыць не больш, чым, напрыклад, «паведамленню», таксама па радыё, у нядзелю, што ваенныя збілі лятаючую талерку. Што толькі не робіцца сёння дзеля сенсацыі!..

Намеснік старшыні Дзяржкамчарнобыля Мікалай Маркоўскі не быў такім катэгарычным, як прадстаўнік Міністэрства абароны:

— Ведаю, — сказаў ён, — што на тэрыторыі Лельчыцкага і Столінскага раёнаў ёсць вайсковы палігон, што туды запускалі нейкія «балванкі». Наконт ядзерных выпрабаванняў там мне нічога не вядома.

Канешне, нам вельмі хацелася б паставіць сёння кропку на гэтай гісторыі, раз і назаўсёды высветліўшы пытанне: «Ці быў жа хлопчык?» І быццам бы дакладны адказ з Міністэрства абароны павінен быў заспакоіць, але ўсё ж слова выпушчана, несумненна, пойдуць размовы, узнікнуць новыя пытанні. Нас, заложнікаў Чарнобыля, гэта не можа не турбаваць. Рэдакцыя з удзячнасцю прыме любую інфармацыю па гэтаму пытанню.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

## БЕНЗІНАВЫ БУМ: «ЦІКАВЫХ» ПЕРСПЕКТЫЎ НЕ НАЗІРАЕЦЦА

**Мы ўжо паведамлялі ў суботнім нумары «Звязды» пра чарговыя «эксперыменты» з цэнамі на бензін, у выніку якіх кошт літра паліва падскочыў больш чым у два разы ў параўнанні з першапачатковым. Пры гэтым надзеі аўтааматараў на паляпшэнне сітуацыі вакол бензінавай ліхаманкі ў сувязі з чакаемым спадам ажыятажу зусім не апраўдаліся. Мала таго, што на подступах да аўтазаправак захаваліся доўгія «аўтахвасты», дык яшчэ ў якасці навіны з'явіліся і без таго лімітаваныя дозы на адзінку тэхнікі. Замест некалі ўзаконеных 40 талонных літраў бензіну спажывец пачаў атрымліваць толькі палавіну жадаемага.**

**Відаць, новыя крокі па «ўрэгуляванню» абсалютна бесперспектыўнага пытання пад кодавай назвай «бензінавы бум» не за гарамі. Вось толькі ў яго механізме наўрад ці прыходзіцца сумнявацца. Як заўсёды — рублём па галаве.**

## КЛУБ МОЖА БЫЦЬ І НАФТАВЫМ

**Днямі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь створаны Камітэт па нафце і прыродных рэсурсах. Акрамя яго арганізуецца так званы «Беларускі нафтавы клуб», у састаў якога прапануецца ўвайсці дзяржаўным і камерцыйным прадпрыемствам, зацікаўленым у фінансаванні нафтаздабычы. Праз гэты клуб чакаецца ўклад у паліўна-энергетычную галіну Беларусі прыкладна 7 мільярдаў рублёў**

## ГАВАРЫЦЬ З НАРОДАМ НАМ З КОЖНЫМ ДНЁМ УСЁ ЦЯЖЭЙ І ЦЯЖЭЙ

**Гэта прызнанне беларускіх пісьменнікаў прагучала ўчора ў час сустрэчы ў Вярхоўным Савеце са Станіславам Шушкевічам і Вячаславам Кебічам.**

Жыццёвая прастора нашай літаратуры,—як ізноў падкрэслілі пісьменнікі, — скарачаецца да катастрафічнай мяжы. Мала таго, што беларуская кніга губляе чытача, які яшчэ няздольны пераадолець моўны бар'ер. Яна губляе лепшыя паліграфічныя базы і друкуецца на перыферыі. Такім чынам, кніжны рынак, як і рынак культурны, запаўняюць каштоўнасці цалкам камерцыйнага плана.

Што тут можа і павінна зрабіць дзяржава? А ў чым спадзяванні пісьменнікаў наіўныя і несучасныя? Пра тое, як павярнулася гаворка, мы падрабязна раскажам у заўтрашнім нумары.

## ПАДАРЫЛІ СВЯТА

У музеі вёскі Моталь Брэсцкай вобласці ёсць карціна, на якой адлюстраваны адзін са славутых мясцовых кірмашоў. Яны штогод праходзілі тут яшчэ з дарэвалюцыйных часоў. І вось было вырашана аднавіць традыцыю. Пасля заканчэння палявых работ сёлета ў Моталь з'ехаліся не толькі прадаўцы і пакупнікі з суседніх саўгасаў, а і з Брэста, Гродна, Пінска, Мінска, завіталі госці і з Украіны — Валынскай і Ровенскай абласцей. Прадавалі не толькі садавіну і агародніну, але і ўкраінскія купоны. Дарэчы, курс купона быў невысокі — 650 рублёў (ці 65 нашых зайчыкаў) ішлі за тысячу купонаў. Арганізатары кірмашу былі задаволены.

Наведвальнікі з удзячнасцю адзначалі не толькі шырокі асартымент тавараў, але і высокае майстэрства артыстаў з Мінска і Масквы. Як хтосьці з гасцей сказаў, «нават калі людзі таўкліся ў чэргах, прабіваючы сабе дарогу да прылаўка, гэта не значыць, што яны не адчувалі локаць адзін аднаго». У сэнсе чалавечай прыязнасці. Таму што была нядзеля і было свята.

**Кар. «Звязды»**

## У каго свярбяць рукі на кіёскі «Саюздруку»?..

**Час ад часу газетныя кіёскі ў Брэсце падвяргаюцца нападу невядомых узломшчыкаў. Зразумела, кіёскі «Саюздруку» вабяць такіх «патрашыцеляў» не свежай друкаванай прадукцыяй, а таварамі галантарэі і парфумерыі, якіх сёння ў кіёсках не менш, чым газет і часопісаў. Гэтымі днямі ўначы адбыўся шэраг падобных узломаў...**

**БелаПАН.**

## ГАРНІЗОН НА ДАЛОНІ

**Ваенныя інспектары НАТО, якія наведалі Брэсцкі гарнізон, атрымалі для карыстання раней вельмі сакрэтныя карты-схемы дыслакацыі войскаў.**

**Цікава, як гэтыя карты-схемы натаўскія спецыялісты выкарыстоўвалі для арыентавання на мясцовасці. Літаральна ў далоні з навігацыйнага касмічнага спадарожніка, які пралятаў над Брэстам, яны атрымалі дакладныя каардынаты свайго месцазнаходжання. Кампактны электронны прыбор быў не большы, чым дыктафон.**

**Ю. ФЁДАРАВА.**

## СЕ ЛЯ ВІ, ШКОЛА

ГРОДНА. Французскую гаворку зараз можна пачуць у сярэдняй школе № 8 абласнога цэнтра. Сюды кожны дзень наведваюцца тэлежурналісты з французскага горада Ліможа, якія рыхтуюць амаль гадзінны фільм пра нашу сістэму адукацыі. Гродзенскіх школьнікаў здымаюць на занятках, дома, у вольны час. Дапамагаюць справе чатыры французскія ліцэісты з самога Ліможа. Здаецца, што жыццём нашых школьнікаў на Захадзе цікавяцца не менш, чым у нас.

## ЦІ ВЕРНЕЦЦА ДОЎГ З-ЗА АКІЯНА?

БРЭСТ. Мясцовае гандлёва-прамысловае аб'яднанне «Надзея» прад'явіла канадскай фірме «Глобаў» судовы іск на 80 тысяч долараў. Прычына канфлікту ў тым, што на працягу апошніх некалькіх месяцаў заакіянскія партнёры не аплачваюць прадукцыю брэсцкага прадпрыемства — жаночыя кашулі з натуральных тканін.



## У Бішкеку пра СНД сказалі: застаецца жыць, працягвае дзейнічаць









Каля пяці гадзін спатрэбілася, каб ТУ-154 з надпісам «Беларусь» на фюзеляжы даляцеў з аэрапорта «Мінск-2» у паветраную гавань сталіцы Кыргызстана. На ім у горад Бішкек на сустрэчу кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў СНД прыбыла наша дэлегацыя.

У гэты дзень Бішкек быў у цэнтры ўвагі калі не ўсяго свету, то, безумоўна, значнай яго часткі. У сродках масавай інфармацыі за мінулыя тыдні неаднойчы абмяркоўвалася пытанне: ці здолеюць прэзідэнты і прэм'еры разам са сваімі экспертамі з першай спробы вырашыць 35 пунктаў парадку дня — менавіта такая колькасць пытанняў рыхтавалася да сустрэчы ў Бішкеку.

Цудоўнае сонечнае надвор'е, яшчэ не кранутая восеньскімі халадамі зеляніна, урачыстасць, якая адчувалася ва ўсім выглядзе гэтага прыгожага горада, відаць, зрабілі добры ўплыў на працаздольнасць і настрой усіх дэлегацый. Так ці інакш, але насуперак прадраканням пасля чатырнаццаці гадзін па мясцоваму часу ўсе пытанні прынятага парадку дня былі разгледжаны.

Вялікі пакет дакументаў аб супрацоўніцтве ў палітычнай, эканамічнай, ваеннай сферах быў падпісаны без усякіх сенсацый. Чуткі пра хуткі распад СНД (а яны, шчыра кажучы, поўняць прэсу перад кожнай такой сустрэчай) абсалютна не пацвердзіліся. Хоць, між іншым, у час прэс-канферэнцыі ўзніклі падставы для працягу такіх чутак. Прэзідэнт Арменіі Лявон Тэр-Петрасян, які адказваў на пытанне журналістаў, ці верыць ён у лёс Садружнасці, зазначыў не надта канкрэтна: усе мы веруючыя...

І ўсё-такі СНД жыве. Безумоўна, некаторыя з прынятых дакументаў можна смела назваць палавінчатымі. Але за прынятымі рашэннямі аб збліжэнні гаспадарчага заканадаўства краін СНД, аб адзінай грашовай сістэме, узгодненай грашова-крэдытнай і валютнай палітыцы дзяржаў, якія захавалі рубель у якасці законнага плацёжнага сродку, бачны новыя перспектывы. Галоўны іх напрамак акрэслены ў кароткім адказе Станіслава Шушкевіча на пытанне, якое журналісты задалі літаральна ў першыя ж хвіліны яго знаходжання ў Бішкеку.

— Як Беларусь ставіцца да ўмацавання сувязей унутры СНД?

— Мы за эканамічную інтэграцыю, але супраць ваенна-палітычнага саюза.

Наступная сустрэча кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў адбудзецца 4 снежня ў Мінску.

**Яўген ПЯСЕЦКІ,**
**спец. кар. «Звязды».**
**Фота аўтара.**

**НА ЗДЫМКАХ:**

● Прыбыццё ў Бішкек.

● Станіслаў Шушкевіч і прэзідэнт Кыргызстана Аскар Акаеў адразу трапілі ў шчыльнае акружэнне журналістаў.

● Беларуская дэлегацыя ў зале сустрэчы.

● Многія пытанні выклікалі пры абмеркаванні вось такую рэакцыю.

● Пільная ахова з байцоў Нацыянальнай гвардыі, лозунгі з прывітаннямі ўдзельнікам сустрэчы, аздобленая белым мармурам прэзідэнцкая рэзідэнцыя — усё гэта Бішкек у дзень падпісання важных дакументаў.

## Як стаць мільярдэрам?

**— У Беларусі ўжо ёсць два чалавекі, чыя асабістая маёмасць перавышае мільярд рублёў, — заявіў нядаўна прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Беларусі Уладзімір Карагін. Якіх-небудзь іншых падрабязнасцей журналістам паведамлена не было.**

Тым не менш, Карагін эксклюзіўна для нашага карэспандэнта прыязна раскрыў некаторыя дэталі. Абодва мільярдэры — ураджэнцы Беларусі, аднак на даны момант на тэрыторыі рэспублікі не жывуць. Сферу іх дзейнасці, паводле слоў Карагіна, можна ахарактарызаваць так: будаўніцтва, вытворчасць, камерцыйная дзейнасць, пастаўка тэхналогій.

Адзін з іх, дастаткова пасудзіўшыся пасля першых сваіх праектаў з мясцовымі ўладамі, жывучы цяпер ў Канадзе, мае 42 сумесныя прадпрыемствы і актыўна рыхтуецца да ўкаранення на Беларусі новай тэхналогіі па вытворчасці цагельных заводаў, якая праз некалькі гадоў у два-тры разы зменшыць сабекошт іх будаўніцтва.

Другі вядзе свае справы ў асноўным на тэрыторыі Польшчы і Германіі.

Абодва мільярдэры спраўна плацяць падаткі і наогул паважаюць законы. Натуральна, што маёмасць абодвух вылічаецца не грашамі, а маёмасцю, нерухомасцю, акцыямі.

На маё пытанне аб падпольных мільянерах Карагін адказаў, што такія ёсць, але ў асноўным з былых партыйцаў.

Сумленныя прадпрымальнікі іх не любяць.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ.**

## Беларуская пазыка: крок першы

На мінулым тыдні ў некаторых сродках масавай інфармацыі абнародавана ўрадавая пастанова № 577 «Аб выпуску Беларускай дзяржаўнай пазыкі 1993 года». У бытнасць Саюза ССР дзяржаўныя пазыкі выпускаліся даволі часта, і старэйшае пакаленне людзей мела з імі справу. Але выпуск беларускай пазыкі з'яўляецца адным з першых крокаў нашай незалежнай дзяржавы ў галіне абарачэння каштоўных папер. А таму для многіх — невядомым.

Адказаць на пытанні, што цікавяць усіх нас з гэтай нагоды, мы папрасілі начальніка аддзела Упраўлення грашовага абарачэння, крэдыту і каштоўных папер Міністэрства фінансаў рэспублікі **Аляксея Атапкава.**

— Пазыка, па-навуковаму кажучы,— гэта дагавор, паводле якога адзін бок перадае ва ўласнасць другому боку грошы ці іншыя каштоўнасці. Пры гэтым другі бок (пазычальнік) абавязваецца вярнуць атрыманую суму грошай ці рэчы на пэўных умовах.

Пазыковыя адносіны могуць устанаўлівацца паміж асобнымі грамадзянамі, грамадзянамі і прадпрыемствамі, паміж прадпрыемствамі (арганізацыямі). Гэтае паняцце аб'ядноўвае такія, напрыклад, аперацыі, як уклады грамадзян у крэдытныя ўстановы, выдачу ссудаў банкамі, касамі ўзаемадапамогі, ламбардамі. Нярэдка мы выручаем сяброў, суседзяў, перадаючы ім грошы і рэчы ў часовае карыстанне.

Як бачыце, з паняццем «пазыка» мы сустракаемся часта, хоць гэтае азначэнне выкарыстоўваем не заўсёды.

Фінансісты разумеюць пазыку як фінансавую аперацыю, якая заключаецца ў атрыманні грошай у доўг на пэўных умовах. Для многіх з нас слова «пазыка» асацыіруецца з прыгожа афармленай каштоўнай паперай, якую можна купіць у дзяржавы і затым доўга чакаць, калі яна ў нас будзе выкуплена. Трэба прызнаць, што і праз гэта мы прайшлі.

**— Так, сапраўды, было і такое, а што будзе, хацелася б ведаць, у прыватнасці, з дзяржаўнымі пазыкамі, не сакрэт жа, што аўтарытэт іх знізіўся?**

— Перш за ўсё дадам да сказанага, што было не толькі адмоўнае ў гэтай справе. Усё-такі людзі верылі дагаворам пазык, заключаных з дзяржавай. Інакш аблігацыі пазык так і не знайшлі б сваіх уладальнікаў сярод насельніцтва. Знаходзіліся шчасліўцы, якія атрымлівалі выйгрышы, іншы раз нават даволі важкія. Мелася рэальная магчымасць у любы час абмяняць у ашчаднай касе аблігацыі 3-працэнтнай пазыкі на наяўныя грошы.

У апошні час давер да дзяржаўных пазык сапраўды пахіснуўся. Справа ў тым, што каштоўныя паперы, якія маюцца на руках у насельніцтва (аблігацыі выйгрышнай пазыкі 1982 года, казначэйскія абавязацельствы і аблігацыі беспрацэнтнай мэтавай пазыкі 1990 года), выпускаліся былым Саюзам ССР, а Рэспубліцы Беларусь, яе ўраду цяпер прыходзіцца адказваць па даўгах, якіх яна не рабіла. Беларусь адной з першых прыняла на сябе абавязацельства пагасіць гэту запазычанасць. Эканамічныя магчымасці не дазволілі вырашыць гэта пытанне з улікам змененага маштабу цэн. Але ў некаторых жа рэспубліках гэта пытанне яшчэ зусім не знайшло свайго вырашэння. І не выключана магчымасць таго, што вышэй пералічаныя каштоўныя паперы (пры іншых умовах іх пагашэння) могуць аказацца ва ўстановах беларускага Ашчаднага банка і ў канчатковым выніку немалыя сумы павінны будуць кампенсавацца нашымі землякамі-падатказ... каплацельшчыкамі, якія зусім не маюць дачынення да ўсіх гэтых папер.

**— Некалькі слоў аб Беларускай дзяржаўнай пазыцы 1993 года.**

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## Трымайся, прафесар!

**Рэктар Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна выдаў загад, які ўзрадаваў прафесарска-выкладчыцкі састаў гэтай навучальнай установы. Вырашана аказаць аднаразовую матэрыяльную дапамогу ўсім штатным супрацоўнікам у памеры 1.200 рублёў на кожнага. Тыя, хто прыйшоў на работу ў гэтым годзе, атрымаюць трохі менш.**

**БелаПАН.**

# РАДЫЁ ФАКТ

У Адэсе прайшоў Міжнародны кангрэс біржаў. У ім прынялі ўдзел буйнейшыя біржы Расіі, Украіны, Беларусі, іншых дзяржаў — членаў СНД, краін Балтыі. Была абмеркавана магчымасць каардынацыі намаганняў прадстаўнікоў вялікага бізнесу для стварэння адзінай эканамічнай прасторы на тэрыторыі былога Саюза, аднаўлення разарваных эканамічных сувязей. Без гэтага, лічаць біржавікі, немагчыма спыніць далейшае спаўзанне дзяржаў да эканамічнага краху.

***

**Усе харчовыя тавары на тэрыторыі Гродзенскай вобласці рэалізуюцца цяпер толькі па разліковых білетах Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь. Аплата прамысловых тавараў, паслуг прадпрыемстваў грамадскага харчавання, сферы абслугоўвання ажыццяўляецца як рублямі, так і разліковымі білетамі. Тое ж датычыць і ашчадных банкаў. Апрача таго, ім дазволена да 1 лістапада рабіць аднаразовы абмен рублёў на разліковыя білеты жыхарам рэспублікі ў размеры да дзвюх тысяч рублёў.**

***

Распараджэннем кіраўніка Львоўскай вобласці серада, 14 кастрычніка, аб'яўлена выхадным днём з выпадку рэлігійнага свята Пакровы Боскай маці, а таксама ў гонар 50-годдзя Украінскай паўстанцкай арміі, якая была створана гітлераўцамі ў 1942 годзе на акупіраванай Валыні. У гонар юбілею ўкраінскіх паўстанцаў на плошчы перад оперным тэатрам у Львове адбыўся мітынг-канцэрт. На ім прагучалі патрабаванні неадкладнага выхаду Украіны з Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

ДА КАНЦА ПАДПІСКІ ЗАСТАЛОСЯ 18 ДЗЁН. ІНДЭКС «ЗВЯЗДЫ»—63850.
ПАДПІСНАЯ ЦАНА «ЗВЯЗДЫ» НА ПАЎГОДА —120 РУБЛЁЎ.

